## ДАРАГІЯ ДЗЕТКІ!

Думаем, што гэтая першая ў 1928 годзе кніжка „Заранкі“ зробіць Вам, Дзеткі, мілую неспадзеванку, бо напэўна ўжо шмат хто з Вас страціў надзею, што яна выйдзе з друку.

На гэты раз удалося перамагчы ўсе перашкоды і „Заранка“ шчасьлівая, што можа ізноў дайсьці да рук сваіх мілых чытачоў, шчырэнька вітае ўсіх Вас у гэтым новым годзе.

Але што будзе далей? Ці зможа яна выхадзіць? ці зможа нясьці Вам, Дзеткі, веду і радасьць так, як яна-бы гэтага хацела?

Вось гэтае пытаньне мы мусім развязаць супольна з Вамі.

Вы ведаеце, што друк часапісі, нават такой невялікай, як „Заранка“, каштуе дорага. Трэба заплаціць і за друк і за паперу і за малюнкі. Кожная кніжка на 16 старонак каштуе 200 злотых.

Аднаму чалавеку даць кожны месяц такую суму зусім немагчыма, але-ж сабраўшыся грамадою гэта зрабіць вельмі лёгка.

3 кніжкі „Заранкі“ каштуе 1 залатоўку. Цяпер падлічыце: каб сабралася ў нас 600 аккуратных падпішчыкаў і прыслалі па 1 злот. мы-б мелі 600 злотых, гэта значыць запэўняныя 3 кніжкі.

Прыслаць адну залатоўку зусім не цяжка, трэба толькі мець гарачае жаданьне падтрымаць родную часапісь, не паляніцца выпісаць яе самому ды старацца прыдбаць ей як найбольш падпішчыкаў.

Каб як-небудзь не даць „Заранцы“ загаснуць, завяжам „ланцуг“ падпішчыкаў, гэта значыць: трэба, каб кожны, хто выпісывае „Заранку„ прыдбаў найменш аднаго новага падпішчыка, той новы намаўляе ад сябе ізноў другога, той трэцьцяга і г. далей. Прысылаючы грошы ў рэдакцыю трэба паведамляць: „Я, напрыклад Янка Канцавы, падаю новага падпішчыка—Язэпа Белага“.

Гэтакія паведамленьня будуць надрукаваныя ў „Заранцы“.

Той, хто прыдбае найболяшы лік падпішчыкоў дастане ў канцы году як падзяку цікавую кніжку.

Падумайце Дзеткі аб гэтым і помніце, што толькі ад Вас саміх залежыць ці будзе істнаваць „Заранка“, ці не.

Падумайце і — за працу.

Рэдакцыя.

# ЗАРАНКА

Ілюстраваная
часапісь
для дзяцей

выходзіць кніжкамі.

Падпісная цана з перасылкай: 3 кніжкі 1 злот. Адна кніжка 40 гр. Заграніцу удвая даражэй.

Падпіська прымаецца
з кожнага месяца

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6

# Як трэба жыць—каб здаровым быць.

Каб больш сонца ды паветра
Скарыстаць ты мог за лета,
Дык для мілых тых гасьцей
Адчыняй вакно часьцей.

—

Дактары нам скрозь даво-
дзяць,
Што хвароба з брудам хо-
дзіць,
Дык парада дзеткам мілым:
Мыйце рукі чыста з мылам.

—

Асьцярога не пашкодзіць,
А з нядбайствам пошасьць
ходзіць,—
Вось вы, дзеткі, не павінны
Есьці й піць з аднэй судзіны.

—

Ня вучыся, брат, курыць...
Што тут доўга гаварыць.
Сам-жа чуў ты ад людзей:
Дым—хвароба для грудзей.
За курэцкія грахі
Будзеш ты—ак-хі, ак-хі...

—

Каб ня мець ліхой бяды
Ад заразы нечаканай,
Дык ня пі сырой вады—
Запасайся гатаванай.

—

Сьліна з пылам той-жа бруд,—
Вось і правіла вам тут:
Чыстату каб захаваць,—
На падлогу ня плюваць.

—

Каб ня мець дарэмнай скрухі,
Каб у рот ня лезьлі мухі,
Не разносілі заразу,—
Як пад'еў, прымай адразу,
І яда няхай накрыта—
Не рабі з стала карыта.

—

Май ты гэта за закон—
Ня сьлінь пальца языком:
Рот на тое, каб ім есьці,
Не заразу ў яго несьці,

—

Каб ня мець хваробы ліш-
няй,—
Грушы, яблыкі і вішні
Зяўсягды перад ядой
Мый ты чыстаю вадой.

—

Зелень міла для вачэй,
З ёю й дышыцца лягчэй,
Дык шануйце-ж зелень, дзеці,
Дрэўцы самі вы садзеце.

—

Кракадзіл і то ён часам,
Як падласуецца мясам,
Рот свой птушкам разяўляе—
Зубы чысьціць дазваляе;
Ну, а ты мой браце любы,
Сам павінен чысьціць зубы.

—

Слухай таты, слухай мамы,
Гразі ў хату за нагамі
Не нясі, а на дварэ
Выцірай каля дзьвярэй,

—

Вазьмі шчотку з парашком,
Вычысьць зубы перад сном,
Вымый ногі (вось закон!),
Дык салодкі будзе сон.

—

Каб ты сьвеж быў ды здароў,
Каб гуляла ў жылах кроў,
Каб ня знаў нуды праклятай—
Спаць лажыся а дзевятай.



МАЛАДЫ ДЗЯДОК

# „Андрэйка“

Апавяданьне



У шырокай лагчыне, паміж ня вельмі высокіх узгоркаў, пакрытых густа ялаўцовымі кустамі, расьселася вельмі прыгожая вёска Ц***. З двух бакоў да яе прылягае сасновы лес, як-бы хаваючы яе ад ветру. За некалькі сажняў ад канца вёскі, быццам сярэбраная йстужка, ўецца вузенькая рэчка, якая, здаецца, хацела-б абвіць вёску наўкола сваім бліскучым паясом. Калі зірнеш здалёк на гэную вёску, дык здаецца, што гэта ёсьць вялізны зялёны сад, паміж якога можна ўбачыць толькі стрэхі хатак, якія тонуць у хвалях густое зелені. Калі-ж увойдзем у сярэдзіну вёскі, дык тады сапраўды можна сказаць, што гэта сад, бо кожны, хоць найбяднейшы гаспадар, мае некалькі фруктовых дрэвак. Прыгожыя хаткі, у большым ліку новыя, уселіся па бакох няроўнае вуліцы, мейсцамі папсутай патокамі дажджовае вады. Калі праходзіш уздоўж вуліцы, асабліва ў сьвяточны дзень, дык угледзіш, як у рознакалёрных вопратках дзе-нядзе ўселіся грамадкамі людцы каля хатак, хто на лаўцы, а хто проста на зямлі. Не‘к жыцьцерадасна гамоняць аб усім: аб гаспадарцы, аб надвор‘і. Угледзіўшы новапрыбыўшага чалавека, яны заўсёды весела яго прывітаюць, хоць будзе гэта багаты, ці бедны, — розніцы ў іх няма. Вельмі добрыя пачцівыя людцы ў вёсцы Ц***. Ня толькі на адну воласьць, але на цэлы павет, слыве гэтая вёска вельмі добрымі музыкамі. І сапраўды музыкі ў ёй ёсьць вельмі добрыя! Там на‘т можна ўгледзіць, як шасьцігадовы хлопчык, які ледзь-ледзь можа ўтрымаць йскрыпку, рэжа на ёй даўгім смыком „Лявоніху“. Вось у гэтай вёсцы Ц*** некалькі гадоў назад нарадзіўся ў небагатых бацькоў хлопчык, якому падчас хрэсьбінаў далі імя Андрэй.

Рос гэты хлопчык у сваёй сям'і, якая апрача бацькі й маці складалася яшчэ з трох старэйшых братоў, як расьце кожнае дзіця беларускае вёскі. Жыў на вольным прасторы, сярод родных палёў, лагоў ды лясоў, пазнаючы ад раньня свайго жыцьця долю й нядолю беларускага селяніна. Быў вельмі спакойны, часам вясёлы, худзенькі хлапчук, з дробнымі рыскамі твару, які быў пакрыты вяснушкамі. Усе звалі яго Андрэйкам. Вось калі мінула Андрэйку сем гадкоў, пашоў ён вучыцца ў школку. якая была ў тэй самай вёсцы. Любіў ён навуку ў школе, але яшчэ больш любіў граць на йскрыпачцы. У вольныя хвіліны ад заняткаў ці работы Андрэйка браў у свае цененькія ручкі йскрыпку, ды выводзіў смыком розныя мэлёдыі, вельмі прыгожыя, тулячы да сябе йскрыпачку, як жывую істоту. Гэты хлапец зварочваў на сябе ўвагу ўсіх сваей здольнасьцяй да музыкі і шмат можна было ад яго спадзявацца.

Борзда мінаюць дні за днямі, гады за гадамі. Андрэйка кончыў урэшце вясковую школу і хацеў вучыцца далей. Але як тут вучыцца, калі грошай на навуку няма?... Аднак ня гледзячы на ўсе перашкоды, ён пачаў прасіць у сваіх бацькоў дазволу, каб ісьці ў Нясьвіж, шукаць там веды ў вышэйшых школах. Не'к бацькі, хоць ведалі, што цяжка яму прыдзецца вучыцца ў такіх варунках, згадзіліся на ягоную просьбу, і завязьлі яго ў места. Тутка ён прыстроіўся ў меставай школе і праз цэлы год вучыўся вельмі старанна. А як-жаж беднаму цяжка было жыць, калі на якую кніжачку, ці сшыток трэба было зарабіць самому грошы! А ратавала яго з бяды ягоная прыяцелька — скрыпачка: там на вечарынцы пагграе, таго павучыць трошкі — глядзіш, а ўжо й мае якую залатоўку, ужо ёсьць алавік, ці сшыток.

Ня гледзячы на такія жыцьцёвыя абставіны Андрэйка не лякаўся будучыні; заўсёды на ягоным твары была мілая ўсьмешка, а шэрыя вочы, выглядаючыя з пад рэдкіх броваў, гарэлі гарачай надзеяй, што не заўсёды будзе гэтак кепска, як цяпер. Але вось, як пярун з неба, звалілася на Андрэйку сумная вестка: дома згарэла хата й хлявы! Увесь дабытак мазольнае працы ягоных бацькоў ды братоў стаўся ахвярай бязлітаснага вагню. Ізноў удар!... Але затрымліваючы ў грудзёх горкі, пякучы боль, ён змагаўся з яшчэ цяжэйшым

жыцьцём, а навукі не пакідаў, ідучы пэўным крокам упярод з цьвёрдаю верай у тое, што дойдзе ўрэшце да сьветлае зары новага, лепшага жыцьця.

Мінула вясна, лета і прышла залацістая беларуская восень. Людзі цешачыся зьбіралі з палёў пажатае збожжа да сваіх гумён. Дзякуючы добраму надвор'ю ўхадзіліся са збожжам у палёх рана, і асталася там толькі бульба. Якжаж прыгожа выглядае вёска Ц***, калі зраньня або ўвечары пасылае сонейка да яе све блícкучыя коскі! Кожнае дрэўка абсыпана грушкамі, ці сьліўкамі, ці жоўтачырвонымі яблыкамі гэтак, што цяжка распазнаць, дзе ёсьць галінкі ці лісткі, бо пачуўшы восень, яны пажоўклі ды пачырванелі. Нейкая прыемная цішыня пануе ў вёсцы і ў полі. Ня чуваць вясёлага пяяньня птушак, якія скрыліся за небасхілам, шукаючы прытулку ад надыходзячых халадоў на паўдні...

Нейкая цененькая хвігурка йдзе шпарка па вузенькай сьцежцы, што бяжыць удаль разам з шырокім гасьцінцам. Старыя высокія бярозы згорбіўшы свае шэрыя станы, выстраіліся быццам вечныя вартаўнікі па абодвух бакох гасьцінцу й, здаецца, нешта гавораць лапочучы сваімі каравымі галінамі, на якіх яшчэ можна ўбачыць жоўтыя лісткі. Але што-ж гэта за чалавечак? Чаму ён так спяшаецца? Што яго гэтак гоніць упярод?...—Калі прыгледзімся да яго, дык адразу пазнаём Андрэйку. Апранёны ён у пацёрты сівенькі халацік, на галаве ўзложана маленькая сіненькая шапачка, на нагах



Андрэйка йдзе ў Нясьвіж.

шэрыя порткі; за сьпіною ён прычапіў торбачку з хлебам ды кніжкамі; у левай руцэ трымае латаныя вялізарныя чаравікі (не з ягонай нагі), а ў правай — сукаватую ялаўцовую палку. Босымі нагамі ён ступае па пяску ды каменьнях, не зважаючы, як часам жорсткі пясок рэжа яму пальцы. Празрыстыя каплі поту выступілі ў яго на лобе;

шчокі ягоныя зарумяніліся як дзьве чырвоныя рожы; на цэлым твары намалявана ні то радасьць, ні то хлопат. Кончыўшы дома неабходную работу, ён сабраўся і скіраваўся ў места — вучыцца. Вось чаму ён так сьпяшаецца — навука цягне яго да сябе, як магніт.

З-за ўзгорку зірнула ўрэшце высокая вежа радзівілаўскага замку, а вось ужо глянуў і касьцёл з чырвонай вежай, вось відаць ужо й сумрачны магільнік, вось ужо й Бэрка—гандляр збожжам—сядзіць пры сваей хаце, якая, здаецца, гатова ад старасьці разваліцца на дробненькія часьцінкі й задушыць сваіх гаспадароў, і — Андрэйка ў Нясьвіжы.

З добрым вынікам злажыў Андрэйка экзамен у польскую вучыцельскую сэмінарыю (бо іншае ня было), і пачаў у ей вучыцца. Цешыўся ён з таго, што навучыцца грацьз нотаў і гэтым „нотам“ ён пасьвячаў шмат шчырае працы. Ніхто ня мог зрабіць закідаў Андрэйку — бо вучыўся старанна, як мае быць. Але наляцеў аднак ён на перашкоду ў асобе пана Н., прафэсара музыкі, які гневаўся на яго за тое, што Андрэйка „хам“ з вёскі, удадатак Беларус, ды гэтак добра йграе на скрыпачцы, маючы відавочны талент. І пачаў ён, гэты „прафэсар“ Н., на кожным кроку „падкладаць шпількі“ Андрэйку, але той, ведаючы, што „прафэсар“ несправядліва паступае, маўчаў, ды вучыўся далей.



Андрэйка грае на йскрыпцы.

У вольныя часіны Андрэйка зарабляў трохі грошай. У сьвяты ён пачаў хадзіць да дому і там разам з усею капэляй граў вечарынкі, ці вясельлі. Вось на адным з гэткіх вясельляў мне прышлося пабачыцца з Андрэйкам у апошні раз, бо балей яго не спаткаў. Але-ж і любіў я яго, ды ня толькі я, а ўсе, хто толькі яго ведаў і чуў ягоную прыгожую музыку. Убачыўшы мяне, ён вельмі усьцешыўся й праз цэлы дзень не хацеў са мною разлучыцца, і я быў пры ім.

З якою захопленасьцяй ён апавядаў мне, што ўжо умее „ноты“ й грае па іх! Якія пляны ён раіў у сваей галаве! Вось, нібы ён кончыўшы сэмінарыю, дабраўся да парога музычнае кансэрваторыі; вось ужо ён артыст-музыка. Казау ён, што каб пляны ягоныя зьдзейсьніліся, дык прыехаў-бы ў сваю вёску, ды ўсіх музыкаў панавучыў-бы йграць „па нотах“. Хочучы паказаць, што ён умее ўжо „па нотах“ Андрэйка пачаў граць нешта прыгожае, але сумнае, аж у мяне зашчымела на‘т сэрца. Ен граў нешта аб... сьмерці...

— Чаму гэта ты, Андрэйка, уздумаў граць гэткую плаклівую мэлёдію, цяпер-жа-ж тутка вясельле? Няўжо-ж ты нічога іншага не патрапіш? — запытаўся я ў яго. Але адказў ён адразу мне ня даў. Здавалася, што ён углыбіўся ўсею душою ў цяжка-сумныя, далікатныя гукі йскрыпкі і нічога ня чуў... Здавалася, што ён перанёсся нейдзе далёка, далёка, дзе ня можа сягнуць чалавечае вока. Але раптам ён уздрыгануўся, выпрастаўся, апусьціў скрыпку і спытаўся: аб чым я яму гаварыў. Я паўтарыў сваё пытаньне. Андрэйка адразу зьмяніўся. Каб забавіць мяне і усіх, хто ад ягонае музыкі на‘т пачаў плакаць, ён нейкім мяккым вясёлым голасам сказаў: „Зараз будзе весяла! Хто хоча са мной скакаць „Казака“?... Ну, калі ніхто не згаджаецца, дык пайду я сам! Глядзеце-ж адно“!... І пачаў Андрэйка скакаць, дый як-жаж добра, а музыкі не патрабаваў, бо скачучы сам сабе падыграваў на скрыпачцы. Усе сені напоўніліся людцамі; пачалі ўсе весяліцца, сьмяяцца. „Вось, як я зрабіў адразу весяла“!—крычаў Андрэйка. Да яго далучыліся шмат жадаючых паскакаць „Казака“. Былі тутака і жанчыны і мужчыны, якія добра сабе падпілі ў хаце маладой; і ў дзяўчатах ды хлапцох недахопу ня было.

Добры быў гэты Андрэйка!... Колькі гадоў ужо мінула, а ў маіх вачох стаіць ён такім, якога я бачыў у той апошні дзень. Сьветлыя валасы ягоныя разьвейваліся на ўсе бакі ад шчырага скаканьня; вочы нейк бліскуча палалі ў ягоным лабе; вяснушкі на твары не‘к зьмяшаліся з загнетам, што выступіў на ягоныя шчокі; на губах была добрая ўсьмешка. Апранёны ён быў у сьвяточную вопратку: зялёная кашуля з хвабрычнае матэрыі з дзьвумя кішанямі па бакох, з пазалачанымі гузікамі, была падперазана шырокім паясом з

жоўтае скуры; сінія, куплёныя порткі і старыя вялізныя чаравікі на нагах.

Ужо сонца схавалася за высокім хвайняком, ужо ясныя зорачкі пачалі трапятацца на аграмадным абшары пацямнелага неба, ужо падзьмуў ветрык вясеньнім холадам, калі мне прышлося разлучыцца з Андрэйкам. Маладыя, разам з усім вясельлям, сабраліся ехаць да маладога, трэ было і музыкам ехаць з імі. На пажагнаньне яшчэ крыху паскакалі, і паехалі. Доўга яшчэ я прыслухваўся да гукаў прыгожага маршу, пакуль зусім усё навакол ня сьціхла.

Была зіма... З самае раніцы неба быццам злавала на некага, бо была пакрыта чорна-сінімі хмарамі. Пад нагамі трашчэў лёд, вецер злосна дзьмуў, здавалася, з усіх бакоў. Вось у гэткае надвор'е выбраўся Андрэйка пехотаю ў Нясьвіж, у сэмінарыю. Бацька чамусьці яго не падвёз?... Павольна йшоў ён упярод, бо вецер няміласэрна біў яго па твары і па ўсім ягоным худзенькім целе. Старэнькі халацік, ды цененькія порткі, ды старыя чаравікі ня маглі ўберагчы Андрэйку ад сярдзітага ветру, ды той і рад быў пазьдзекавацца над безбароннай істотай... Аднак — ён ішоў упярод.


Андрэйка ўзімку йдзе ў Нясьвіж.

Праз цэлую ноч ня згасла лямпа ў хаце дзядзькі Вінцеся, у якога знашоўся Андрэйка на кватэры. Ня спаў добры дзядзька Вінцэсь, ня спала й ягонага жонка Настуля, добрая жанчына. Яны хадзілі каля Андрэйкі, які ляжаў у ложку, увесь калаціўся, як асінавы лісточак; часамі яго кідала ў гарачку, ён нешта нявыразнае казаў. Не адну сьлязінку ўцёрла хвартухом цётка Настуля; у дзядзкі Вінцэся таксама вярцеліся ў вачох сьлёзы. Цётка Настуля клала Андрэйку да ног бутэлькі з гарачай вадой, дзядзька Вінцэсь накрываў яго сваім новым кажухом. Яны вельмі

ўжо любілі Андрэйку. Яны былі да яго, як родныя. Дзядзька Вінцэсь, здаецца-б, гатоў ляцець Бог ведае куды, каб толькі Андрэйку было лягчэй, але што-ж рабіць, калі яны небагатыя?... Добра-б доктара... але ці-ж пойдзе доктар уначы да беднага? — Ніколі! Не такі наш павятовы доктар! Яшчэ-б мо' сказаў, што: трэба заяву напісаць, ды на тры залатоўкі марак наляпіць, тады-б мо' за тыдзень даў адказ. Гэтак праз цалюсенькую ночку прасядзелі міласэрныя людзі. Дзядзька Вінцэсь сядзеў на покуці, падпёр сваю галаву рукамі і знуранымі вачыма сачыў кожны рух хворага. Цётка Настуля сядзела ля ложка на даўгай дубовай лаўцы. У гарнушачках стаялі розныя дамовыя лякарствы ад прастуды: быў тут і малінь-нік, і ліповыя краскі з мёдам, і мацярдушка й яшчэ нешта, словам, усё, што магла раздабыць запасьлівая гаспадыня. Андрэйка трошкі супакоіўся.



Андрэйка хворы.

Заслона доўгае зімовае ночы пачала паволі злазіць з шэрага неба і праз вокны Вінцэсявай хаты пачало пралазіць сьвятло. Газа ў лямпе ўся выпалілася і яна пачала ўжо дыміць, і ўрэшце пагасла. Сонны Андрэйка раптам схапіўся з ложка, і пакуль дзядзька Вінцэсь з сваёй Настуляю апамятаўся, ён борзда ўлажыў на сябе порткі і кашулю.

— Куды-ж ты?!...— з жахам крыкнулі яны.

— Лажыся, Андрэйка, ты хворы! Лажыся любенькі! — лапаталі яны захлапатаныя. Але Андрэйка ледзь адказаў, бо зубы ў яго пачалі ляскаць.

— Трэ-б-ба й-сь-ці ў сэ-эмі-нар... — далей ён ня мог гаварыць, бо жаль сьціснуў горла.

— „Ня йдзі, любенькі, ня йдзі“ — шчабятала добрая жанчына, цётка Настуля.

— „Баюся, баюся... Пан прафэсар Н. споўніць сваю пагрозу... выкіне мяне з сэ-мі-на-рыі... як прапушчу хоць адну ягоную ле-кцыю...— набраўшы сілы выгаварыў ён.

Ніякія просьбы не памаглі, і Андрэйка нічога ня еўшы пашоў у сэмінарыю. Каб скараціць сабе дарогу, ён скіраваўся праз замёрзлае возера да радзівілаўскага замку, дзе мясьцілася сэмінарыя. Спаткаўшыя яго сябры па школе адразу ўцямілі, што ён хворы і радзілі вярнуцца дамоў. Нат адзін, Міколка па іменьні, цягнуў яго за руку, каб вярнуўся, але Андрэйка не паслухаў і такі пашоў.

Сумная вестка абляцела ўсю вёску Ц*** і ваколіцу. Андрэйку, ледзь жывога, прывязлі з Нясьвіжа. На саламяным сяньніку, накрыты коўдрай і кажухамі, ляжаў ён бяз памяці. На ягоным блядым, збалелым твары малявалася вялікая цярпеньне. Часамі Андрэйка ўвесь уздрыгіваўся, відаць знасіў цяжкія мукі, паўтараў прозьвішча таго праклятага „прафэсара“, які без дай прычыны чапіўся да яго і рабіў розныя крыўды.

— „Пане прафэсару!... я ня вінават!... Пане прафэсару!... я ня вінны“ !... — паўтараў няшчасьны Андрэйка балючым, дрыжачым голасам, а цяжкі жаль відавочна душыў ягоныя грудзі. Плакаў бацька, плакала маці, плакалі браты, гледзячы на свайго Андрэйку, які ўжо не адзін пуд збожжа зарабіў сваёй музыкай. Пасходзіліся суседзі... — а ўсе плачуць, а ўсе шкадуюць. Раптам цішыня запанавала ў хаце. Усе з жалем глядзелі на Андрэйку... А ён — расчыніў вочы, зірнуў мутным поглядам і... пачалося кананьне. Усе кінуліся з крыкам да яго. Бацька схапіў яго на рукі і пачаў адкалыхіваць, і на агульную ўцеху, Андрэйка пачаў ізноў дыхаць, але... не надоўга... Калі кончыўся кароткі зімовы дзень, — тагды кончылася кароткае жыцьцё Андрэйкі! Ягоныя грудзі падняліся высака, высака. Андрэйка сканаў...

З неба падаў дробны дожджык. Здавалася, што і неба ліло сьлёзы, шкадуючы беднага Андрэйку... Вецер нек аслабеў, быццам прызнаўся, што ён шмат вінен у яго сьмерці. Ен гэтак сьцёбаў Андрэйку ў той дзень, калі хва-

роба звaліла яго ў ложак. Аднекуль прыляцеў крумкач, ды ўсеўшыся на бярэзіне, пачаў не'к жудасна крумкаць.

Прывязьлі бацюшку з дзяком з парыхвіяльнае царквы. Сабралася шмат людзёў, а кожны плакаў і стары і малы. А як-жаж было не плакаць, калі адыходзіў ад іх гэткі добры хлапец! Хто-ж гэтак цяпер пайграе на йскрыпачцы? Хто паскача гэтак „Казака“, як калісь ён скакаў?...

Пад гукі жалобных малітваў, пад балюча-жудасны енк маці, пад агульны плач, вынесьлі апошні раз з хаты даражэнькага Андрэйку ў хваёвай дамавіне.



У магілцы (вясна).

Запяяў поп з дзяком „Вечную памяць“, яшчэ мацней загаласілі ўсе прысутныя, завыў не'к страшна вецер, калі жоўтая дамавіна сьпусьцілася на дно могілкі. Родная зямелька ветліва прыняла свайго каханага сына пад сваю вечную апеку. Дробныя грудкі мерзлае зямлі стукалі аб дамавіну і борзда закрывалі яе сабой.

З сумным настроем сабраліся ўсе сваякі і знаёмыя на жалобную вячэру ў хаце Андрэйкавых бацькоў... А вецер праз усенькую ночку, лётаў над сьвежаю магілкаю, не'к жаласна выў, быццам прасіў Андрэйку выбачэньня за ўчыненую крыўду.

Цёплыя хвалі вясеньнага ветрыку сагналі з неба апошнія шэрыя хмаркі зімы і заблiскала залатое сонейка на блакітным, вялікім яго абшары. Уся магілка Андрэйкі пакрылася маладзенькаю зялёнаю траўкай; белы крыжык спакойна прытуліўся да яе й сьцеражэ супакой нябожчыка.

Андрэйкава йскрыпка дасталася ў рукі ягонага брата. Але ці-ж гэтак сама грае яна, як у Андрэйкі?... — Не! куды-ж там! Замест далікатных, чароўных гукаў, яна выдае нейкія балючыя енкі, жудасныя стогны, быццам жывая,

яна гэтак плача па сваім памёршым уталентаваным гаспадары.

---

Адзін стаю я над Андрэйкавай магілкай... Нешта цяжкое душыць мне горла! нейкая крыўда чуецца ў маёй душы. Мімаволі вырываюцца з грудзёў цяжкія ўздыхі, а ў вачох круцяцца пякучыя сьлёзы!




## Зімовыя малюнкі.

Паглядзі, як пушыста мароз
Накладае шаўковыя шаты
На галінкі таполяў, бяроз,
Што стаяць ля вакна маей хаты.

Акаваў ён у крыштальную сталь
Усё прывольле заснуўшай вады;
То-ж мастак, чарадзей і каваль
Свае ўзоры кладзець на зямлі.

Як прыгожа цяпер у бару,
Дзе адвечныя сосны і елі
Так паважна глядзяць у гару
З пад пакрова пушыстае белі.

І зіяньнем сьмяецца ім выш...
Залацістага сонка касулі
Заліваюць спавітае ў ціш
Усё царства сьцюдзёнай красулі.

М. МАШАРА.

АСТАП ВІШНЯ.

# Як я вучыуся пчаляраваць.

(Праўдзівае здарэньне)

Гасьціў я неяк на вёсцы ў вельмі добрага чалавека, Сымона Андрэявіча, народнага вучыцела і вельмі практычнага пчаляра...

Сымон Андрэявіч быў вельмі ласкавы і ўзяўся навучыць мяне пчаляраваць. даказваючы мне, усімі спосабамі, што пчалярства вельмі даходная штука, а добра наладжаная пчалярства вельмі вяілкая дапамога народнай гаспадарцы.

Учыце, кажу... Будзем,—кажу,—народную гаспадарку палепшаць.

Узяліся, значыцца, мы вучыцца... Спачатку ўсё пашло добра... Ужо я ведаў, што драўляная скрынка, дзе гудзяць пчолы, завецца — в у л ь л е й.

Дзірачка, куды пчолы ўваходзяць і скуль вылазяць — гэта в ы л е т.

Даведаўся я пра калоды і пра рамовыя вульлі...

Паказваў пальцам на пчальнік:

— Гэта Дадан!

— Гэта Лявіцкі.

Коратка кажучы, радаваўся і я, радаваўся і Сымон Андрэявіч.

— З вас, — казаў мне, Сымон Андрэявіч — не благі будзе пчаляр...

— Пастараюся,—кажу.--Вельмі ўжо, кажу, мёд салодкая і смашная штука!

— Вельмі ўжо, кажу, мне пчалярства падабаецца.

Прачытаў мне Сымон Андрэявіч лекцыю пра тое, якая карысная штука мёд, як лекі, як пчальнік добра ўплывае на чалавека, як ён дапамагае бюджэту і г. д. і г. д.

Буду, думаю сябе, пчаляраваць! Кожны вечар мы елі мёд... І з гарбатай мёд елі! І з піражкамі мёд елі!

Буду, думаю сабе, пчаляром.

А заўтра. — кажа Сымон Андрэявіч, — будзем вульлі аглядаць, будзем праверацць. Пазнаёмлю вас з пчалінай сям'ёй, з унутраным жыцьцём.

Настала заўтра.

— Пойдзем!

— Пойдзем! — кажу.

— Сеткі надзеваць ня будзем, бо пчолы—кажа Сымон Андрэявіч, — у мяне спакойныя „Італіянскія“! Вы толькі стаіце спакойненька, не размахівайце рукамі. Спакойна стаіце. Найгалаўнейшае спакой... І ніякая тады вас ня ўкусіць...

Пастараюся,—кажу,—стаяць спакойна. І рукамі махаць ня буду.

Мы пашлі...

Зьняў Сымон Андрэявіч стрэшку.

Дззз! Дззз!

Нічога! Нічога! Гэта яны спачатку, зараз супакояцца. Не махайце рукамі!

— А хіба я махнуў?

— Махнулі.

— Гэта сама рука махнула!

— Не махайце!

— Ой, глядзіце, пане вучыцель самі, а я ўцяку! Ай!

Рушыў я паміж вішняком... Заплюшчыў вочы і перавярнуў калоду...

— Падайце,— крычыць Сымон Андрэявіч.

— Мусіць не ўпаду,—крычу. Куды мне далей уцякаць?

Ускочыў я ў крыніцу. Занурыў галаву ў ваду... Выскачыў потым з яе, пераскачыў праз плот ды па вуліцы да школы!

Дзеці пакінулі забаву:

— Глядзіце, як дзядзька шпарка бяжыць! Чаго гэта ён так?!

Ускочыў я ў школу... Прыбегла Ганна Сьцепанаўна... Пачала вытрасаць „італіянку“ з-за пазухі...

Потым прыкладалі дзесяткі, амонякам націралі.

Апух я і вельмі мне ўсё балела.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ня выўчыўся я на пчаляра. Давялося ісьці ў пісьменнікі...

Усё ў мяне ў пчалярстве добра. І я яго разумею. І карысьць з яго разумею...

Вось толькі не магу, каб не махаць рукамі

Прабачце, сябры, маей руцэ; яна ня можа ўтрымацца,

А пчол усё-ткі разводзіце...

Толькі не размахіваеце, калі ласка, рукамі.

З украінскага пераклаў А. Войніч.

# Дзядзька.

(„Новая Зямля").

**Якуба Коласа.**

Наш дзядзька, мілы наш Антоні,
У дзіцячым часта быў палоне;
Вось так гуртом яго абсядуць
І час работы яго крадуць:
Насі „катла“, кажы ім казкі,
Ідзі на поплаў з імі ў краскі,
Давай адказы на пытаньні,
Тлумач ты ім усё дазваньня:
Адкуль, з чаго дзе што бярэцца;
Вось гэта, тое як завецца,
І чаму так, чаму ня гэтак?
Прыхілен дзядзька быў да дзетак,
Ен быў настаўнікам, судзьзёю,
Калі, бывала, між сабою
Паспораць дзеткі ці паб‘юцца,
Дык да каго тады зьвярнуцца,
Як не да дзядзькі да Антося?
Ох, слаўна з дзядзькам ім жылося!
Яшчэ замецьце, што з малымі
Ен размаўляў, як са старымі
І з імі радзіўся, спрачаўся —
Як роўны з роўнымі трымаўся!
Калі-ж хто, часам, з ім ня зладзіць
То дзядзька толькі вус пагладзіць,
Але ня скажа ён нічога,
Бо ведаў, чым даняць малога, —
Гаворыць з тым, з кім дзядзька ў згодзе
— Калі такі ён, ну, то годзе: —
І тут ён змоўкне, пачакае,
Кісет дастане і закурыць,
І вочы чутачку прыжмурыць,
Як-бы і ў памяці ня мае,
Таго, што з хлопцам пасварыўся.
— А як авёс наш ўрадзіўся?
Схадзіць-бы ў Ліпава пабачыць! —

Ужо знаюць дзеці, што то значыць
Гаворка дзядзькава такая,
Куды ён вуды закідае:
У Ліпава пайсьці з ім; Божа!
І хто ўстаяць прад гэтым зможа?
Ды гэта-ж сьвята, ягамосьці!
Набок тут норавы і злосьці!
І мяккім робіцца паганы —
Хоць ты яго кладзі да раны.
Адно вазьмі яго з сабою,
Усюды пойдзе за табою,
І ўсё забудзе, усё даруе,
На дзядзьку больш не засярдуе,

А чым жа Ліпава так міла?
Чым так дзяцей яно маніла?
І што за Ліпава такое?
А гэта — поле маладое
Сярод лясоў, як скінуць вокам;
На тым абшары, на шырокім
Раскошна нівы красавалі,
А ў іх мільёны красак з'ялі,
Як-бы на небе тыя зоркі
Лужкі, дарожкі і пагоркі
І купкі хвоек маладыя,
Дзе матылёчкі залатыя
На сонцы крыльцамі блішчэлі,
Жучкі і конікі трашчалі
І ў стройны звон свой зык зьлівалі
Былі там пасекі. Што году
Тут сотні блізшага народу
Дзялянкі лесу карчавалі
І на трацяк іх засявалі
Капу да скарбу, дзьве да дому...
Ну, як тут вытрываць маюму,
Таму, хто з дзядзькам пасварыўся?
Як бачыш, з дзядзькам ён гадзіўся.

А пойдзеш у Ліпава лясамі,
Напэўна ўстрэнешся з ласямі
І зайца ўгледзіш і вавёрку,
І норы воўчыя на ўзгорку

Сярод трушчоб між ельнякамі,
І „чортаў камень“, што вякамі
Над Азярком ляжыць, як хата...
Ну, усякіх дзіў там ёсьць багата!
А дзядзька ўсё табе пакажа,
Цікавасьць тваю ўсю разьвяжа.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

О, дзядзька спосабаў меў многа
Даняць праціўніка малога!
Пайсьці ў грыбы ці ў тую-ж рыбу,
Або паехаць у сялібу
Ці ў млын малоць на хлеб збажынку,
Усё гэта квапіла хлапчынку,
Цягнула крэпенька, бывала,
І, як рукою, злосьць зьнімала.
І дзядзька майстар быў на штукі
І быў маханік на ўсе рукі:
І дудку скруціць вам і стрэлку,
І нарысуе, нават, елку, —
Такую выштукуе цацку,
А ў Сьвержань пойдзе—купіць пляцку,
Дык і ня дзіва, што любілі,
Што на руках яго насілі
А жывучы каля зямлянкі,
Паміж лясоў, сярод палянкі,
Яшчэ крапчэй яны здружыліс,
Адзін к другім цясьней хілілісь.
— А ну, давай, брат, запрабуем,
Хоць на цікавасьць пакаштуем,
Які тут сок на новым месьце?
Мо‘, з хлебам можна яго есьці?
— А дзядзечка, мой залаценькі,
Пастаў нам соку, дарагенькі!
— Вазьмі, вазьмі мяне з сабою! —
Тут каля дзядзькі чарадою,
Як чэрві, дзеці мятушацца,
А дзядзька моўчкі стаў зьбірацца:
Дастаў сякерку і сьвярдзёлак,
Пад паху сунуў ён аполак
На латакі і на падстаўкі

Ды выняў два гаршкі з-пад лаўкі.
— Ну, хто са мною йдзе — пытае
— Я!
— Я!
— І я! — крычыць малая
У канцы дзяўчынка Міхаліна.
— Куды табе? — ото скачыха!
На печ залезь і сядзі ціха! —
Напалі хлопцы на дзяўчыну;
А тая ў сьлёзы, у плач як бачыш,
— Ну, сьціхні, ша! Чаго ты плачаш?
Антось пляменіцу ўцяшае
І нос крысом ёй абцірае,
— Няхай ідзе!.. А хлопцам брыдка
Так нападаць на дзеўку швыдка, —
Гаворыць дзядзька, бровы хмурыць
І бальшуноў ён злёгка журыць.
Тады і хлопцы тон мяняюць;
Ідуць у лес, крычаць, гукаюць,
Як вучні, вырваўшыся, з школы,
І ўсе давольны, усе вясёлы —
А дзядзька ў перадзе тралюе
І галаву ў гару ўскідае,
Бярозу добрую шукае
З салодкім сокам, баравую,
Дзе-б бобам кропелькі сачыліс.
Знайшлі бярэзіну спыніліс.
Залысіў дзядзька дрэва зьлёгка
(Сякерка востра, кара крохка),
Зрабіў заруб, латак прыправіў,
А пад латак гаршчок паставіў.
І соку кропелькі, як сьлёзы,
Як град пасыпаліс з бярозы,
Аж шкода нейк было дзярвякі:
Здаваліс ранай тыя знакі,
Адкуль паліўся сок халодны
І пакідаў свой комель родны.

# Прышла вясна.

З. ВЕРАС

Хоць мароз яшчэ парою дакучаў ды і сьнег яшчэ не зьняў з зямлі сваей белай посьцількі, але-ж сонейка неяк мацней ужо грэла і залівала цэлымі масамі сьвету ціхія палі і сенажаці.

Яго магутныя праменьні ўпалі і на страху Янкавай хаткі ды здолелі заглянуць праз ваконца ў сярэдзіну. Янка адчуў іх цёплую ласку ды зразумеў ціхі прызыў і хуценька апрануўшыся выбег у садок.

Там яго бацька ўважна аглядаў кожнае дрэва ды адпілоўваў сухія непатрэбныя галінкі, а пасьля ачышчаў пні і грубейшыя сукі ад моху.

Угледзіўшы Яначку бацька весела крыкнуў:

— „Што, сынок, спатыкаць вясну вышаў?“

— А дзе-ж тая вясна? Сьнег усюды ляжыць, ды яшчэ гэтак сьцюдзена... — маркотна адказаў Янка, паціраючы зачырванеўшыеся ручкі.

— Пачакай, сынок, не задоўга будзе ўжо цёпла і хораша — адказаў бацька, —кожны дзень вясна да нас прыбліжаецца. Вось з гэтых пучкоў, што бачыш на дрэвах і кустах вырастуць зялёныя лісточкі, палі зазелянеюць, а сенажаці і балота пакрыюцца жоўтымі дыванамі малачаю і латаценю (лопуху). А раней яшчэ, як толькі зыйдзе сьнег з лясных ўзгоркаў, глянуць на нас з-пад кустоў ляшчыны сіненькія вочкі пралесак. Помніш, колькі іх было летась?...

— А помню, помню, татачка. Дык значыцца, як закрасуюць пралескі, то ўжо будзе вясна? — пытаўся Янка.

Хацеў хлопчык яшчэ нешто папытацца ў таты, але-ж той адышоў. Пастаяў Яначка яшчэ крыху, падумаў ды пайшоў да хаты.

У наступныя дні надвор‘е было вельмі брыдкое. Дробны дождж барабаніў у вокны ад раніцы да вечара, а вецер згінаў дрэвы аж да зямлі. Доўга прышлося сядзець Янку у хаце. Аж наканец аднае раніцы сонейка неспадзевана выглянула з-за хмараў і хлопчык выбег у садок Якая-ж перамена? як цяпер інакш усё выглядала... Сьнегу ня было нідзе ні крышкі; праз жоўтую леташнюю траву траву прабівалася ўжо сьвежанькая зялёная траўка; кусты аграсту пакрыліся маладзенькімі лісточкамі; вербы пукаліся высака ў небе зьвінеў жаўранак; а на страсе адрыні стаяў бусял.

Але-ж Яначка яшчэ сам сабе ня верыў, што гэта ўсё праўда, што ўжо вясна. Ен схапіўся і хуценька пабег за вёску ў лясок. Маленькія ножкі моцна пляскалі па балоце і па лужах, абліваючы ня толькі адзежку, але і тварык. Ен гэтага ня бачыў, у яго галоўцы было адно пытаньне, адна думка: ці праўда, што ўжо прышла вясна?

Вось ужо і лясок. Зграбным скокам перасадзіў Яначка невялікі роў і апынуўся сярод шэрых, голых яшчэ кустоў ляшчыны.

Глянуў на зямлю і з вуснаў яго сарваўся крык радасьці:

— „Есьць, ёсьць!“

Сярод леташніх сухіх лісьцяў аж зіхацела ад сініх пралесак... Жоўтыя іх вочкі неяк радасна выглядалі з паміж сіненькіх пялёсткаў і ажыўлялі лясны ўзгорак.

Яначка нарваўшы поўныя жменькі кветак і моцна прыціскаючы іх да сябе пусьціўся бегчы дамоў.

Убачыўшы яшчэ здалёк стаяўшага каля варот бацьку, ён голасна крыкнуў:

— „Тата, тата! закрасавалі пралескі, прышла вясна!“



# Працы нашых чытачоў.

В. ПАВАРЫНСКАЯ.

## „Тсілла".

(Арабская легэнда)

Яна жыла сярод бязьмежнай Сахары, у невялікай оазе пад вялізарнымі пальмамі, сагрэтая, як і яны, пякучымі касулямі афрыканскага сонейка.

Тсіллай называлі яе, вольнае дзяцё арабаў. Яна жыла адна з сваёй бабулькай Фацімай. Ні бацькі, ні маткі... Старэйшы брат яе, улюбёны брат Сякесса, памёр на паляваньні за валадарамі пустыні — магутнымі львамі. Тсілла гэтаму няверыла. — то-ж бабуля гаварыла ёй, што Сякесса павандраваў у далёкае падарожжа, туды, за сінія мары, у чужацкую, цудоўную старонку, — і што ён вернецца.

І Тсілла чакала...

Дзікунка з палючымі вачамі ніколі ня бачыла іншага малюнку, як бязьмежная пустыня, ніколі ня чула іншай музыкі, як шэлест шырокіх пальмавых лісьцяў; над яе галавой заўсягды раськідалася скляпеньня цёмна-сіняга неба, дзе ўначы так хараша зьзяў Паўдзённы Крыж... Пах цытрынаў і красуючай акацыі... Бульканьне ручайка... А ўвечары, калі начная прахалода спушчалася на зямлю, Тсілла садзілася на свайго арабскага каня „Саіда" і шалёна скакала па пяскох пустыні, і гэта было яе адзінай пацехай-задаваленьнем, ад каторага так білася сэрца.

І Тсілла была шчасьлівая.

Часта, калі караваны астанаўліваліся напаіць вярблюдоў з сьцюдзёнага ручая оазы, Тсілла з бліскучымі вачыма цікава прыглядалась да чужынцаў і, калі яны адыходзілі, тужлівымі вачыма глядзела за імі.

— Ці ня ў цудоўную старонку, дзе жыве брат Сякесса

адыходзяць яны?“ пыталася яна ў бабулькі. Ей здавалася, што так лёгка дабрацца да гэтай цудоўнай старонкі.

— І Тсілла марыла...

Аднойчы Тсілла сядзела ля сваёй хаты. Фаціма пайшла да стады. Тсілла была адна. Дзяўчынка быццам застыга, лятуценьні ўнясьлі яе—куды? Быць—можа, у цудоўную старонку Сякессы. Раптам яна адчыніла вочы, нейчыя крокі парушылі цішыню вячэрняга супакою. Да яе ішла незнаёмая жанчына. Маністы і бранзалеткі зігацелі на шыі і руках харашухі, шоўкавая вопратка так прыгожа абвівала яе стан. О, як яна была прыгожа!

— Дзіця, сказала чужаземка,—можа ты мне пакажаш, дзе-бы я магла адпачыць. Два разы сонейка ўсхадзіла і захадзіла за край неба, а я ўсё ішла ды ішла, вочы мае ня ведаюць сна ўжо некалькі дзён“.

„Фаціма выйшла, Тсілла адна“, адказала дзяўчынка,— „але ўвайдзі з супакоем, і хай Магамэт увойдзе з табой“. Жанчына прылягла на падушкі, а Тсілла з бліскучымі вачыма прысела да яе: — „О чужынка, прыгожая як сонца Сахары, ці не дазволіш ты Тсілле запяяць табе песьню“? — запыталася яна не сьмелым голасам.—„Ты пабачыш Тсілла ўмее ўкалыхваць тых, хто змарыўся.

І Тсілла запяяла...

Ноч прыйшла, маладая чужынка ўстала, каб ісьці.

— „О, ты ўжо ідзеш“!—жаласна ўсклікнула Тсілла. — „І, калі ўзойдзе сонейка, ты пакінеш нашу пустыню?“ „Куды ідзеш ты?“ — „Я іду ў цудоўную старонку, дзе я радзілася і ўзрасла.

Заблішчэлі вочы Тсіллы.

— „Ты кажаш, цудоўная старонка.

О, гэта напэўна старонка майго Сякэссы, майго добрага Сякессы. Вазьмі, вазьмі мяне з сабой. Я знайду яго і прывяду яго сюды, да старой Фацімы!“ і слёзы вялікія. сьветлыя, як каплі расы, зьвіслі на доўгіх расьніцах арабкі,

— „Ідзем, мая маленькая Тсілла, няхай ніколі больш сьлёзы не зацемняюць твайго сьветлага погляду“.

І Тсілла пашла...

Ад тае пары яна жыла ў пышным месьце, у багатым доме сваёй прыгожай знаёмай; яна, Тсілла, арабскае дзіця, з нясьмелым поглядам дзікункі, яна жыла сярод раскошы. Яе маленкае цела не ведала больш грубае тканіны; мяккі аксаміт і іншыя дарагія матэрыі былі яе вопраткай, нявольнікі служылі ёй. Яна засыпала, пад чароўные гукі лютні... Але як сумавала яе душа.

Тсілла была нешчасьлівая...

Аднойчы яна сказала сваёй знаёмай, прыціскаючы руку да сэрца:

— „Мне баліць тут, мне вельмі цяжка з тае пары, як я прышла сюды. Не, напэўна, не, твая старонка—ня цудоўная старонка Сякессы, дзеля таго, што там, дзе Сякесса Тсілле добра. Вярні мяне назад на Бацькаўшчыну, там пальмы ківаюць густымі вярхамі, там праходзяць караваны, там Фаціма ізноў раскажа мне аб цудоўнай старонцы Сякессы“.

І Тсілла плакала...

— „Пачакай, маленькая Тсілла, пацярпі трохі, і ты палюбіш маю старонку“.

Але дзіця адмоўна качала галавой, маленькае сэрца шчымела ад болі, вочы хваравіта блішчэлі. Надышоў ціхі вечар. Сьветлая ўсьмешка асьвяціла тварык Тсіллы, як серабраны званочак зазьвінеў яе галасок.

— О, вось яны мае пальмы! Чуеш, як шуміць вецярок у іх вярхох; ці бачыш, як зьзяе крыж на небе. Удыхні ў сябе пах красучых акацый і цытрын, паглядзі, паглядзі — вось яна, цудоўная старонка Сякессы.

І Тсілла памёрла...

Пераклала М. з А.

# Аб зязюльцы.

(Народная казка)

Даўно, даўно гэта было, не за нашу памяць, жыў-быў на сьвеце адзін чалавек — Якубам зваўся. Была ў яго жонка, ды такая злосная, такая сварлівая, што мусіць на ўсім Божым сьвеце ня было гэткае. Заўсёды яна сварылася з сваім мужам, заўсёды грызлася, а мужык яе быў чалавек добры, разумны і цярплівы: што яна на яго не валіла, што не гаварыла нядобрага, усё ён зносіў, усё цярпеў. Жонка яшчэ горай муштравала яго, бо бачыла, што бярэ над ім верх, і што ён паддаецца ёй, і на'т пачала біцца з ім. Аднаго разу вельмі моцна зазлавалася яна на свайго мужа і выгнала яго ў Божы сьвет. А Якубу ляпей



было хадзіць па сьвеце, чымся жыць з такою жонкаю, і сабраўшыся, пайшоў у сьвет.

Як выгнала яна яго, то была ўжо вельмі рада, але па нейкаму часу ўгледзела як дрэнна жыць бяз мужыка. Пачала яна шукаць яго. Дзе яна не хадзіла, дзе не шукала, колькі не клікала, усё надарэмна, па яе мужыку і сьлед загінуў. Пачала яна плакаць па ім, бедаваць, і тады сказаў да яе Бог: — „За тое, што ты ня ўмела жыці са сваім мужыком, і прагнала яго, а цяпер хочаш знайсьці, дык стань ты зязюляй і шукай датуль свайго мужа, аж знойдзеш“.

Ад таго часу лётае шэрая зязюля па сьвеце ды жаласна куе.

А калі добра прыслухаецеся то у яе кукаваньні, пачуеце словы: „Якуб, я тут“! Якуб, я тут!“

Запісаў Янка Патаповіч.

в. Рачканы.

# Наша вёска.

Наша вёска называецца Якубавічы; ляжыць яна ў даліне, з боку вёскі знаходзіцца лес і рэчка, а з другога поле, якое завецца „падграніца“. Вёска мае ўсяго восемдзесят хат. Хаты з дзерава і пакрыты саломаю. У аднаго селяніна ёсьць курная хата. Яна ўся закураная дымам, бо дым выходзіць праз дзьверы і вокна. Есьць школа невялікая на сорак вучняў. Садоў ня шмат, гароды ў кожнага селяніна ёсьць за вёскай, толькі адзін агарод вясковы супольны, на якім садзяць капусту, буракі і г. д.

Нашыя сяляне займаюцца земляробствам. Есьць некалькі сталяроў, каторыя робяць калёсы, сані і г.д., пастухі плятуць кошыкі. Жыхары неасьвядомленыя. Газэты чытаюць ня ўсе, кніжак таксама мала чытаюць, бо бібліятэка малая, усяго кніжак 40.

У. Верабей, вуч. II кл. В. Б. Г

---

# Зьбіраньне ягадаў.

На Беларусі ўсе вёскі акружаныя лясамі. Наша вёска таксама акружана вялікімі лясамі. Мы часта ходзім па ягады, дзе бываюць вельмі цікавыя здарэньні. Калі мы зьбіраемся па ягады, дык адзін аднаму кажам, што пойдзем заўтра ў лес. Тады ўстаем рана і клічам. Усе зьбіраемся і ідзем, але не адны — часта ідуць старыя жанчыны і дзяўчаты. Адноўчы мы пайшлі па ягады. У лесе мы ўжо пачалі зьбіраць ягады, аж раптам закрычала адна дзяўчына. Мы ўсе папалохаліся і прыбеглі да яе. Убачылі там вужаку. Усе пачалі біць яе дубцамі. Забіўшы, ізноў спакойна вярнуліся да сваей работы. Хутка нашыя збанкі былі поўныя і мы пайшлі дамоў.

Але мне больш ўжо не было як хадзіць па ягады, бо трэ' было вучыцца каб паступіць ў гімназію. Я хадзіў падгатаўляцца у вёску Навасёлкі з самага раньня.

А. Леванчук, вуч. II кл. В. Б. Г.

---

# Здарэньне пастушка.

Пасьвіўшы каля лесу стадка, я пачуў трэск. Раптоўна павярнуўшыся ў той бок, я ўбачыў двух вялізарных ваўкоў-канюхоў. Наляцелі ваўкі на стадка. Перш на перш кінуліся ваўкі на мяне і пакацілі з ўзгорка ў нейкае балотца. Некалькі хвілін я быў без памяці, але троху ачнуўшыся — падняўся і пабег да стадка. Стадка я ўбачыў у вялікім перапалоху. Ваўкі кінуліся на цялят і хацелі іх падушыць, — але адзін бык наляцеў на іх і пачаў разганяць, б'ючы рагамі. Ваўкі пакінуўшы цялят пабеглі да авец. Тут ужо была горшая бяда. Адзін воўк зхапіў маю авечку і пачаў душыць. Я ўбачыўшы гэта, пачаў яго хлістаць пугай. Раз'юшаны зьвер кінуўся на мяне і паваліў на зямлю. Гэта хвіліна была для мяне вельмі небяспечнай, але ў той-жа мамэнт паказаўся той самы бык, які абараніў цялят. Прыбег ён сюды і пачаў біць ваўкоў з усяе сілы. Ваўкі мусілі пакінуць стадка і мяне і пабеглі ў суседнае стадка, дзе праз хвіліну чуваць было крыкі. Я падняўся і палучыўшы авец і цялят, пагнаў іх на другое поле, дзе было бесьпячней аставацца мне пры іх.

Кастусь Аскерка, вуч. II кл. В. Б. Г.

---

# Куцьця.

Сьцяпан прыбег да мацяры ды й кажа:

— Мама! мама!

— Чаго крычыш?

— Штось я ў цябе папытаюся. Праўда, мама, што сяньня куцьця будзя?

— Чаму ня праўда? Праўда!

— А чаму ты пытаешся? Што, ты ня ведаў, што сяньня куцьця?

А Сьцяпан ды й кажа:

— Не, ня ведаў. Я пабег да Валодзі, ды Валодзіна маці кажа: Сьцяпан, ці твая маці варыць куцьцю? Я кажу: хіба сяньня куцьця? А Валодзіна маці кажа: але-ж, сяньня ўсе людзі вараць куцьцю. І я прыбег, мама, да цябе ды й пытаюся ціварыш? а заўтра будзе першы дзень каляд, будзем мяса есьці, каўбасы, а сяньня куцъцю трэба есьці, так Мама? — Мама, а мы будзем есьці мяса і каўбасы.

— Чаму ня будзем? Будзем!

— Мама, а мне ёсьць порткі новыя, харошыя? — Есьць! А новая шапка з блішчыкам?—Есьць,—праўда ёсьць і аж Сьцяпан ня ведаў што рабіць з вялікай радасьці і пабег да калегі Валодзі.

Прыбег ў хату засапаўшыся ды адразу пытаецца ў Валодзі: — Валодзя! У цябе ёсьць новая шапка з блішчыкам? — Есьць!

І абодва з вялікай радасьці пачалі скакаць, пляскаць у далоні ды гуляць.

Доўга яны бегалі па хаці ды скакалі, а потым Валодзя кажа:

— Сьцяпан, Бяжэм на вуліцу!

— Бяжэм!

Выбеглі хлопцы на вуліцу, ды пачалі паглядаць ў адзін канец вуліцы і ў другі.

Ажно Сьцяпан кажа: — Валодзя бяжэм да хлапцоў! — Бяжэм, папытаемся ці ў іх куцьцю вараць, ці ў іх шапкі ёсьць — і пабеглі.

Прыбеглі яны да хлапцоў.

— У вас у хаці вараць куцьцю? — Вараць. — А ў вас вараць? — Вараць! — і ўсе яны пачалі гульнёю займацца. Адныя ў сьнежкі пачалі біцьца, а другія пачалі ляпіць балвана і так, што кожны з хлапцоў быў заняты сваёй працай.

Пасьля адзін з хлапцоў кажа: — хлопцы пасля вячэры каб усе сабраліся каля Сьцяпанавай хаты. Сьцяпан кажа:

добра, але-ж каб вы, сабраўшыся, сьвістнулі памаленячку, то я зараз выйду. І ўсе хлапцы пачалі разыходзіцца.

Прыйшоў Сьцяпан да хаты, ды бацька кажа:—Пабяжы, Сьцёпка, сена прынясі але самага найдаўжэйшага. Ен пабег прынёс сена. Палажылі сена на стол, заслалі абрусом, а трошкі адлажылі ў куток, дзе паставіла маці гаршчок з куцьцёю. Пасьля пачалі вячэраць. Сьпярша запілі чаркай гарэлькі, елі квас (расол) з грыбамі, потым булачкі з сялядцамі, гарох з цукрам, куцьцю з цукрам, а потым пасьля вячэры пачалі варажыць. Ажно Сьцяпан чуе, што хтось сьвіснуў. Ен адразу дагадаўся, што гэта калегі.

Апрануўся і выйшоў на вуліцу і як усе сабраліся, пачалі згаварывацца куды ісьці.

— Пойдзем да дзяўчат, паглядзім, як яны будуць варажыць! Падыйшлі да аднае хаты, падыйшлі да другое ажно бачаць, дзяўчаты варожаць. Усе хлапцы падбеглі пад вокны і пачалі пагладаць. Ажно дзяўчаты згледзілі і за весілі вакно ды зачынілі дзьверы.

Хлапцом ня было як глядзець і яны адышліся. Хадзілі яны доўга па вуліцы, бо вечар быў ясны. Месяц падняўся на небе высока над зямлёй; паглядаў на яе цікава, як-бы ведаў, што на зямлі робіцца.

Доўга хлапцы хадзілі.

Нарэшце пачалі разыходзіцца і Сьцяпан пайшоў дамоў. Бацька і маці ўжо спалі. Сьцяпан ціхенька распрануўся, каб не збудзіць бацькоў, лёг і хутка заснуў.

С. Рыбак, вуч. І кл. В. Б. Г.



## *Месячніку „Заранка“ — вітаньне.*



*IV-я, V-я і VI-я клясы 2 ой Рыскай Беларускай пачатковай школы (на чырвонай Дзьвіне) з клясавым настаўнікам К. Езавітавым і кіраўнікам школы М. Дзямідавым.*

*17-XII 1927.*

# Загадкі і круцігалоукі

| | | |
|---|---|---|
| а | б | ц |
| к | г | д |
| р | м | н |

## КРУЦІГАЛОЎКА ЛІЧБОВАЯ.

(падаў Алесь Патаповіч)

У клетках, азначаных літарамі: а, б, ц, к, г, д, р, м, н, трэба паставіць цыфры: 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9 — так, каб ува ўсіх кірунках складаныя па 3-ы, давалі цыфру 15.

---

## ЗАГАДКІ.

(падала „Маруся з Антокалю)

1) Ішоў чалавек, бачыць двое сена грабуць: ён кажа: калі брат з сястрою сьпешна вам, калі мужык з жонкай сьмешна вам.

І ня брат з сястрою і ня мужык з жонкай—мая матка яе матцы сьвякроўкай была.

---

2) У „Заранцы“ ёсьць, у „Сасе“ не, а ў „Зязюлі“ аж дзьве.

---

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | А |
| | 2 | | | | Б |
| | | 3 | | | В |
| | | 4 | | | Г |
| | 5 | | | | Д |
| 6 | | | | | Е |

## ЛАМІГАЛОЎКА ПРАСТАКУТНАЯ.

(злажыў А. Патаповіч)

У радкох азначаных літарамі А, Б, В, Г, Д, Е напісаць па адным пяцігучным слове; з літараў у клетках, азначаных цыфрамі 1, 2, 3, 4, 5, 6 зложыцца назоў плянэты.

Словы злажыць з наступных складоў: Ка-ман-ку-гат-ка-цёт-пец-ка-цо-рэч-буд-нё.

Значэньне слоў: а) Беларуская рака. б) Назоў бягучай вады. в) Чалавек, які займаецца гандлям. г) Псэўданім беларускай паэткі. д) Музыкальны інструмант. е) Назоў дэльты Віслы.

---

# КУТОК СЬМЕХУ

## ДАВЕДАЎСЯ.

Украў злодзі ў жыда казу. Узяў яе на шнурок і вядзе.

Даганяе яго жыд.

— Гэй, слухай! На што ты ўзяў маю казу?

Злодзі: На шнурок.

Жыд: Але за што ты яе ўзяў?

Злодзі: За рогі.

Жыд: Але я пытаюся цябе, што я табе зрабіў.

Злодзі: А ці я ад цябе што хачу?

---

## У ШКОЛЕ.

Вучыцель: Мікалайка, ты чаму спазніўся сягоньня ў школу?

Мікалай: Бо я, пане вучыцель, быў патрэбны тату.

Вучыцель: Ня мог тата ўзяць каго іншага?

Мікалай: Не, пане вучыцель, бо я разбіў нос Вольцы і тата якраз даваў мне ў скуру.

---

## НЯ ЗГУБІЎ.

Адзін хлапец, што служыў на караблі, падаючы абед свайму капітану, укінуў няхочучы серабраную ложку ў море. Вельмі засьмуціўся, бо баяўся аб гэтым казаць капітану.

Наканец пытаецца капітана:

— „Пане Капітан! Ці можна сказаць, што нейкая рэч згубілася, калі ведаем дзе яна ляжыць?“

— Калі ведаеш, дзе ляжыць, — засьмеяўся капітан, — то можаш прызнавацца.

— „А то ваша ложка ня згубілася, бо я знаю, што яна ляжыць на дне мора“.

(Укр. час. „Пчолка“)

---

## ЯК ЯНО ЎЛЕЗЛА.

Глядзі, Уладак, як курэнятка вылазіць з яечка.
Уладак прыглядаецца, а пасьля задуманы кажа:
— „Але як яно сюды ўлезла?“

---

## ДОБРЫЯ МАЙСТРЫ.

Тата аглядае свой гадзіннік і кажа:

— Не разумею, чаму ён стаіць, мусі трэба будзе даць яго пачысьціць.

Малы сынок: Ня трэба, тата, я з Ганулькай цэлую раніцу мыў яго і чысьціў шчоткаю ад зубоў, дык ён зусім чысты.

(Укр. „Сьвіт Дытыны).



Рэдактар-Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна Вільня.